# НАВІНКІ

3 - 10 красавіка 2003 №9(88) Кошт свабодны

# СФАРМУЛЯВАНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ІДЭАЛЁГІЯ: УСХОДНЕ-ЭЎРАЗІЙСТВА!

*(Падрабязнасьці на стар. 6,11)*






## НАВІНКІ TV

Праграма тэлебачаньня 7-13 красавіка 2003

## Кароль Гуга IV або фантазіі Якубовіча

Стар. 5

## Злавесны плян Садама




Стар. 3

## Жадаеш міру – прамый мазгі!

Як амэрыканцам варта праводзіць кампанію па сабатажы ў Беларусі.

Стар. 4

## КААП сьпяшаецца на дапамогу



Комікс на стар. 16

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.»Известия», 9-143. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у ПРУП «Чырвоная Зорка», г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2384
Нумар падпісаны да друку 3.04.2003г., а 00.01. Тыраж 3000 экз.

## НавІнкі ў тЭстах

**1. Якое сьвята адзначылі народы Беларусі і Расеі 2 красавіка?**
А) Дзень разьяднаньня
Б) Дзень яднаньня
В) Дзень сьняданьня

**2. Імем якога нябожчыка прапанавала АГП назваць адную з вуліц Менску?**
А) Ю.Захаранкі
Б) В.Ганчара
В) Г.Карпенкі

**3. У сувязі з павелічэньнем колькасьці самазабойстваў на берасьцейшчыне пачаўся месячнік дабравольнай здачы:**
А) Шклатары
Б) Крыві
В) Зброі

**4. Які відны беларускі палітык адзначыў 75-гадовы юбілей?**
А) Івонка Сурвіла
Б) Мухамэд аль Барадэй
В) Ханс-Георг Вік

**5. У які колер будуць пафарбаваныя ўсе аўтобусы маршруту №100 згодна пастанове Менгарвыканкаму?**
А) Зялёны
Б) Блакітны
В) Хакі

**6. Сэнат ЗША плянуе прыняць адносна Беларусі акт аб:**
А) Дыктатуры
Б) Дэмакратыі
В) Анархіі

**7. Адпаведна статыстычных дадзеных большасьць беларускіх наркаманаў замест маку перайшла на:**
А) Канаплю
Б) Гераін
В) ЛСД

**8. Шостая сэсія якога органу распачала працу 2 красавіка?**
А) ПП НС РБ
Б) ЦК РСДРП(б)
В) АБВГД-й(ка)

**9. З кім за тры апошнія гады сустрэўся Аляксандар Лукашэнка 24 разы?**
А) З Галінай Лукашэнка
Б) З Садамам Хусэйнам
В) З Уладзімірам Пуціным

**10. Музэй якой кнігі будзе адчынены ў Менску ў 2005 годзе?**
А) Чырвонай
Б) Зялёнай
В) Беларускай

**11. З 1 красавіка ў Беларусі стартавала акцыя «Зробім краіну»:**
А) Чысьцей»
Б) Брудней»
В) Сьвятлей»

**12. Паводле дадзеных міністэрства адукацыі дзяржава штогод выдаткоўвае 459 тысячаў рублёў на ўтрыманьне аднаго:**
А) Школьніка
Б) Хабзайца
В) Прэзыдэнта

**13. На якім востраве адбыўся ўгон самалёту?**
А) Ямайка
Б) Куба
В) Сахалін

**14. Хто будзе весьці ток-шоў «Выбар» на ОНТ замест У.Мацкевіча?**
А) Я.Хрусталёў
Б) Л.Грыбалёва
В) Паца-ваца

**Правільныя адказы:** 1-Б, 2-В, 3-В, 4-В, 5-А, 6-Б, 7-Б, 8-А, 9-В, 10-В, 11-А, 12-А, 13-Б, 14-А

# Сьняданак турыста

### *Новыя маршруты хутка пралягуць па Беларусі*

## ГлыбІнка

### Сардэчна запрашаем

**Ведае гэта нават дробны прастак –**
**Ніхто не жадае «папасьць», як Ірак.**

**Таму, спадары амэрыкосы-садысты,**
**Лепей едзьце да нас як турысты.**

**У нас на вёсцы вельмі добры адцяг:**
**Самагон, цыбуля, хрэн – і ў сельмаг.**

**За 140 баксаў будзе магчымасьць дана**
**Сваімі рукамі забіць парсючка.**

**Забыў вялікую родную мову?**
**У хлеў пасьпяшайся, там ёсьць карова.**

**Настальгія зваліла, вільгота ў вачах –**
**Радэя можна зрабіць на быках.**

**Твар каб быў сьвежы заўжды без прышчоў,**
**Ужывай чарпаком каравяк або гной.**

**Каб паміж ног быў дрот па калена,**
**Хадзі з мужыкамі з ранку на сена.**

**Дзеўкі на вёсцы – супэр і клас!**
**Забудзеш пра Мэры і родны Тэхас!**

**Ярыла Пшанічны**



Аматары сялянскай экзотыкі ладзяць на беразе Прыпяці пікнік з традыцыйнымі дранікамі, чаркай і шкваркай

Нэалібэральныя эканамічныя рэформы, якія праводзіць беларускі ўрад, патрабуюць значных фінансавых уліваньняў. Але трэба ўлічваць, што амэрыкосы з эўрапейцамі крэдытаў ды траншаў у бліжэйшы час хрэн дадуць. Вось і прыходзіцца кіраўніцтву выкручвацца любымі спосабамі. Асаблівыя надзеі ўскладаюцца на турыстычную галіну. А чым жа Беларусь можа зацікавіць багатага буржуя, каб ён вёз сюды свае даляры і эўра? Няма ў нас ні гор, ні вадаспадаў, ні лазурных берагоў.

І ўсё ж такі знайшліся ўмельцы выцягнуць грошы з кішэні заходніх вандроўнікаў і зарганізавалі новы від турызму – адпачынак на вёсцы. Нацыянальная сялянская экзотыка – вось сапраўдны турыстычны клондайк. Першая група беларусаў, якія вырашылі займацца арганізацыяй такога кшталту бізнэсу, ужо накіравалася ва Украіну, каб там прайсьці курс навучаньня. Усе слухачы – фэрмэры і працаўнікі турыстычнай галіны. Чаму менавіта туды? Справа ў тым, што нашыя паўднёвыя суседзі ўжо даўно маюць адпаведны досьвед і ўцюхваюць даверлівым іншаземцам сала з горілкою.

А мы таксама ня лыкам шытыя. І ў нас ёсьць што паказаць і расказаць. Беларусы багатыя на вясковы каларыт. Пару гадкоў павазіць турыстаў па балотах і лясах, глядзіш, і сродкі на аграрны комплекс зьявяцца. Так што ў хуткім часе на якім-небудзь глухім палескім хутары зноў можна будзе пачуць даўно знаёмае «Бабка, млеко, яйкі, шнэль!» ●

# Скралі жалеза

### Каму спатрэбіліся палёныя кампутары?



Уся беларуская журналісцкая брацiя ў паніцы: чарговы напад на газэту. Яшчэ ня сьцёрліся ў памяці абрабаваньні *Згоды, Нашай свабоды* і новаўтворанага холдынгу *Літаратура і мастацтва*, як на табе – яшчэ адзін сюрпрыз. На гэты раз абакралі рэдакцыю штотыднёвіка *Новы час*. Уначы выставілі шыбы, падцягнулі кампутар і вынялі ўсё жалеза. Корпус пакінулі. Скралі інфармацыйную базу, на якой вярстаўся новы нумар. Як стала вядома з крыніцаў, набліжаных да рэдакцыі, нумар быў прысьвечаны ўсім вядомаму схадняку інтэлігенцыі і зьмяшчаў працяг друкаваных выступаў удзельнікаў сходу. Адмыслоўцы кажуць, што гэты напад ёсьць лягічным працягам мінулых рабаваньняў. Міліцыя не пагаджаецца з тым, што гэта быў мэтанакіраваны крадзеж. Гэта няправільна. Каму акрамя інтэлігентаў цікава, што там пра іх напішуць у газэце *Новы час*? Паказальна, што ў рэдакцыі газэты *Навінкі*, якую так званыя інтэлігенты нават у рукі ўзяць баяцца, ніколі ніякай тэхнікі ня кралі і не скрадуць з-за адсутнасьці. Выключэньне склаў толькі пэйджэр галоўнага рэдактара.

Ёсьць яшчэ вэрсія – у апошні час крадзяжы ў офісах (не абавязкова апазыцыйных арганізацыяў) адбываюцца рукамі сваіх уласных супрацоўнікаў, якія вырашылі свайму хатняму Пі-Сі апгрэйд зрабіць па поўнай праграме. Ясна! Камусьці спатрэбіўся новы мадэм ды й іншыя цацкі. А тое, што ў злачынцаў адзін і той жа крымінальны почырк – значыць, што па наводцы дзейнічае група прафэсыяналаў ●

**Біл Гейц,**
ХАКЕР

# *Жураўліны крык*

Нялёгкі лёс беларускага эмігранта. Асабліва такой славутай асобы, як Васіль Быкаў. На радзіме за чалавека ня лічаць. Здавалася, пасьля таго, як Вацлаў Гавэл асабіста ўручыў беларускаму пісьменьніку від на жыхарства, у славутага празаіка зьявілася надзея на сьветлую будучыню. Жыві сабе ў Празе, хадзі на фуршэты, паплёўвай з Карлава маста і пішы апавяданьні ды аповесьці. Дык не ж! Не панос, дык залатуха. Калі жыцьцё крыху наладзілася, зьявіліся істотныя праблемы са здароўем.

На днях дзед Васіль перанёс вельмі складаную апэрацыю, у выніку якой яму была выдаленая частка кішэчніку. Некалькі гадзін Быкаў ляжаў пад наркозам. Хаця апэрацыя і была пасьпяховай, некалькі дзён яму прыйшлося паваляцца ў рэанімацыі. Але зараз наступіла паляпшэньне і мэтар пяра ўжо пераведзены ў агульную палату. Урачы, якія назіраюць за Быкавым, кажуць пра ягоны моцны арганізм. Пацыенту давядзецца яшчэ дзень-другі правесьці ў шпіталі, а пасьля не адзін тыдзень далечвацца.

Варта дадаць, што і ў гэтым выпадку не абыйшлося бяз моцнай рукі. Стары карыфан Быкава Гавэл, відаць пад уражаньнем «Альпійскай балады», а можа з-за пісьменьніцкай салідарнасьці, выдзеліў для клясыка свайго асабістага ўрача. Гэты самы хірург, які неаднаразова корпаўся ў целе былога чэскага прэзыдэнта, і ампутаваў хворыя органы нашай легендзе. Так што будучым пакаленьням беларускіх школьнікаў трэба ведаць каго дзякаваць за тое, што ў падручніках па літаратуры зьявяцца новыя творы Быкава ●

**Аркадзь Куляшоў**




Чэскія эскулапы рэжуць сваімі скальпэлямі легенду беларускай літаратуры



# Увага, вірус!

## *Новая хвароба пагражае Кучме*

Палітычная сытуацыя ва Ўкраіне вельмі нагадвае беларускую. Тамтэйшая апазыцыя як ні пнецца, ніяк ня можа зьвергнуць дыктатара. Ужо каторы год працягваюцца масавыя вулічныя акцыі, але жаданага выніку яны не прыносяць. Кучма ўпэўнена сядзіць у сваім прэзыдэнцкім крэсьле і, здаецца, у бліжэйшы час аддаваць уладу не зьбіраецца. А тут яшчэ на яго шчасьце вайна ў Іраку прадставіла шанец падлізаць зад Амэрыцы і паслаць хімічны батальён на дапамогу амэрыканскім камандас. Пасьля такога дальнабачнага геапалітычнага рэвэрансу можна і на трэці тэрмін падацца. У такіх умовах украінскія пазьнякі-лябедзькі вымушаныя шукаць новыя сродкі барацьбы з рэжымам.

Але і вялікія палітыкі (якім несумненна зьяўляецца Леанід Кучма) часам памыляюцца. Гэтымі днямі праходзіць афіцыйны візыт украінскага прэзыдэнта ў Манголію і Кітай з заездам у Ганконг. А там, як вядома, лютуе эпідэмія атыповай пнэўманіі, ад якой ужо загінула больш за 50 чалавек і якая імкліва распаўсюджваецца па ўсім сьвеце. Краіны СНД пакуль гэтая навала абмінула з-за таго, што з усходняга рэгіёну на прасторы былога СССР едзе вельмі малая колькасьць пасажыраў. Так што Кучма, а зь ім некалькі дзясяткаў чалавек прэзыдэнцкай сьвіты могуць першымі прывезьці бацылу сьмяротнай хваробы. Тады яму нават Буш не дапаможа.



*Занепакоеная ўкраінская грамадзкасьць патрабуе тэрміновай ізаляцыі свайго роднага прэзыдэнта*

Украінская апазыцыя схапілася за гэтую навіну, як за апошнюю макавую саломку. Радыкальна настроеныя на чале зь Юляй Цімашэнка прапануюць накіраваць Кучму і ўсю афіцыйную дэлегацыю на прымусовы карантын на як мага большы тэрмін. Прычым падкрэсьліваюць, што гэтая мера выкліканая патрабаваньнем усяго народа і ў яго інтарэсах. Як бачым, неабдуманая паездка можа стаць для Лёні апошняй. Трон пад ім захістаўся. Галоўнае для яго цяпер – ні ў якім разе ня трапіць у карантын, бо ўсім вядома, чым пагражае краіне ды і самому прэзыдэнту доўгая адсутнасьць на сваім пасту. Прыгадайце хаця б, што сталася з Гарбачовым у жніўні 1991, калі ён спакойна парыў мошчы ў Фаросе. Застаецца толькі параіць Аляксандру Рыгорычу не папасца ў падобную пастку і тэрмінова зьмяніць зьнешнепалітычны вектар і адмяніць бліжэйшыя візыты ва ўсходнеазіяцкі рэгіён. Інакш... ●

# І пайшоў брат на брата

## *Злавесны плян Садама спрацаваў*

Два тыдні ваеннай кампаніі амэрыкана-брытанскай кааліцыі ў Іраку ня толькі ўжо да аснованьня разбурылі тэзыс Пэнтагону аб «высокатэхналягічнай вайне», але й сьведчылі ўсяму сьвету поўную паразу Пэнтагону на інфармацыйным фронце. І справа нават ня ў тым, што вызвольнае войска Буша ўва ўсю пляжыць багдадзкія рынкі й расстрэльвае пасажырскія аўтобусы, забіваючы жанчын і дзяцей, і даючы такім чынам глебу для пашырэньня антываенных настрояў у сьвеце, не! Паказальны іншы аспэкт: саюзьнікі нясуць вялікія страты ня столькі ад ірацкіх шахідаў, колькі ад «памылковых» дзеяньняў амэрыканскіх вайскоўцаў. За ўвесь час апэрацыі «Шок і трэпет» амэрыканцы ўмудрыліся зьбіць пару сваіх верталётаў, замачыць некалькі дзясяткаў брытанскіх салдат, закідаць гранатамі палатку сваіх жа марпехаў, завязаць бой самі з сабой, падарваць танк і бронетранспарцёр...

«Памылка, – кажуць амэрыканскія ваякі. – Збой у распазнаваньні «свой-чужы», вар'яцтва салдата, трагічная выпадковасьць...»

Але хто зараз паверыць прэс-цэнтру Пэнтагона, які выпусьціў ужо столькі «качак», што большасьць амэрыканцаў сёньня цьвёрда перакананыя: у Іраку ёсьць, як мінімум, дзясятак гарадоў з назвай Ум-Каср, прычым палова зь іх ужо кантралюецца войскамі саюзьнікаў.

Аднак віной усяму – злавесны геній Садама Хусэйна, які здолеў выкарыстаць глыбокія мэнтальныя супярэчнасьці капіталістычнага агрэсара супраць яго ж самога. «Ахілесавай пяткай» войска ЗША сталася славутая амэрыканская сквапнасьць і прадпрымальнасьць. І пакуль янкі раскідвалі прымітыўныя ўлёткі ў тылі другой сусьветнай а-ля «Рускі салдат здавайся! Сталін – тыран!» у тыле ірацкіх войскаў, Садам зрабіў геніяльны ход канём. У першы ж дзень вайны Хусэйн агучыў своеасаблівы прайс-ліст: напрыклад, за забітага амэрыканскага салдата было абяцана 10000 баксаў, за палоннага – 17000, за падбіты танк або верталёт – 50000, а за самалёт сьвеціць аж 100 штук зялёных! Тут у янкі, узгадаваных на кульце лёгкай нажывы, і пачаў ехаць дах. Маўляў, навошта мачыцца задарма з іракцамі, калі на сваіх можна добра падняцца?!

У кулюарах Пэнтагону цяпер ідзе сапраўдны пярэпалах. Тое, што здэмаралізаваны ўвесь амэрыканскі кантынгент у Пэрсідзкім заліве – гэта паўбяды. Вестка пра новы ірацкі Кляндайк ахапіла ўсю амэрыканскую моладзь, і ваенкаматы ня могуць адбіцца ад шматлікіх валанцёраў, што хочуць прыняць удзел у апэрацыі «Свабода Іраку». Калі так пойдзе далей, то Садаму проста не застанецца нічога іншага, як, склаўшы рукі, спакойна чакаць, пакуль амэрыканцы самі не пераб'юць адзін аднога ●




# Мая міліцыя мяне сьцеражэ

Гарачай вясны ў Беларусі ў гэтым годзе не атрымалася. Акцыі апазыцыі ўсё часьцей носяць нешматлікі характар і скончваюцца арыштамі некалькіх арганізатараў. Тых славутых хапуноў, якія былі ў 1996 ужо няма і, хутчэй за ўсё, ня будзе. У такіх умовах фактычнага прастою дарма растрачваецца бясцэнны досьвед байцоў АМАПу і частак спэцназу МУС. А досьвед гэты гадамі накапліваўся ў вулічных сутыкненьнях з натрэніраванымі адмарозкамі.

А ва Ўкраіне масавыя выступленьні толькі пачынаюцца і рыхтавацца да іх трэба загадзя. Таму для праходжаньня стажыроўкі ў Акадэмію МУС Беларусі прыбылі курсанты Нацыянальнай акадэміі МУС Украіны. Праграмай прабываньня ўкраінскіх мянтоў прадугледжана азнаямленьне з асаблівасьцямі прававой сыстэмы рэспублікі і падрыхтоўкай кадраў для органаў унутраных справаў. Плянуецца, што ў бліжэйшы час выкладчыкі Нацыянальнай акадэміі МУС Украіны таксама наведаюць Беларусь.

Але што значыць тэорыя бяз практыкі? Кожны міліцыянэр, а тым больш будучы афіцэр, павінен умець дзейнічаць ва ўмовах вулічных бясчынстваў. Таму трэба накіраваць нашых абаронцаў правапарадку ў Кіеў, каб яны ў рэальных умовах перадалі досьвед і паказалі мэтады разгону несанкцыянаваных шэсьцяў ●

**Валеры Шчукін**

*ФОтахрОніка*

## Калі б фотка магла гаварыць




У менскім лядовым палацы прайшоў чарговы турнір па вольнай барацьбе на прызы А.Мядзьведзя.




Адначасова з усім сьветам беларускія анархісты зладзілі тэатралізаваны пікет каля амэрыканскай амбасады супраць вайны ў Іраку.




Нацыянальная зборная па футболу правяла адборачны матч чэмпіянату Эўропы-2004 з камандай Малдовы. На гэты раз нашыя нарэшце атрымалі перамогу зь лікам 2:1.




Беларусь упершыню стала чэмпіёнам Эўропы. Праўда не па футболе, а па настольным тэнісе. Усё роўна прыемна.




Міністэрства адукацыі РБ у сувязі з моцнай перагрузкай дзяцей плянуе скараціць школьныя вучэбныя праграмы ў бягучым годзе на 20%.




Беларуская чыгунка 1 красавіка пажартавала над сваімі пасажырамі. Цэны на квіткі ў электрычкі ўзьняліся ў сярэднім на 30%.

# Жадаеш міру – прaМый мазгі

*Да магчымага прыходу амерыканскіх «вызваліцеляў» лепш за ўсё рыхтавацца ўжо сёньня.*

Здаецца, такі янкі паставілі на канвэер вайну супраць дыктатараў. Не пасьпелі часткі кааліцыі толкам узяць захудалы іракскі гарадзішка Ум-Каср, як на старонках заходняй прэсы кшталту часопісу «Forbes» журналісты арганізавалі кастынг наступнай мішэні Буша.

Прэтэндэнтаў на лаўры новага «Доктара Зла» ня шмат: паўночнакарэйскі Кім Чэн Ір, лівіец Кадафі, барадач Фідэль Кастра, іранскі прэзік Хатамі ды наш ўсенароднаабраны.

Што чакае нас, шараговых грамадзянаў РБ, у выніку пачатку апэрацыі «Свабоду Беларусі»? З пэўнай доляй эвэнтуальнасьці гэта можна ўявіць зь сёньняшніх рэпартажаў з Заліва. Кропкавыя ўдары па рэзыдэнцыі Лукашэнкі ў Драздах, якія чамусьці будуць трапляць па спальным раёне Сухарава, гераічныя ўчынкі сябраў БРСМ, якія, абматаўшыся дынамітам, кідаюцца пад гусеніцы амэрыканскіх танкаў, мужнасьць дэпутатаў расейскай Дзяржаўнай Думы – удзельнікаў акцыі «Жывы шчыт», якія прымаюць на сябе першы «тамагаўк».

Каб пазьбегнуць іракскага рымэйка ў Беларусі, зьберагчы грошы сабе, а нам – жыцьцё, амэрыканцам трэба загадзя задумацца над апрацоўкай мазгоў вернападданых беларускага тырана. Трэба зрабіць так, каб беларусам нават у галаву не прыйшло страляць зь дзедавых стрэльбаў па пралятаючых над іхнымі галавамі «Апачам». Наадварот, пабачыўшы бамбардзіроўшчыкі зь белымі зоркамі, мы павінны радасна крычаць і бегчы самалётам усьлед у надзеі атрымаць халяўную гуманітарку – клюшку для гольфа або канвэрты для кававарак. Кажучы на мове вайсковых піаршчыкаў, амэрыканцы павінны зрабіць гэтак, каб іхні прыход быў успрыняты, калі не зь вялікай радасьцю, то максымальна будзённа.

Прапануем Вашынгтону ўжо сёньня рыхтаваць нашыя ізьвіліны да зьяўленьня на нашых вуліцах амэрыканскі марпехаў. Ніжэй выстаўленыя тыповыя абразчыкі прапагандысцкай літарартуры, якую амэрыканцы распыляюць над Іракам. Кантэкст агітпропу перароблены адпаведна беларускім рэаліям. Уважліва паглядзіце на гэтыя ўлёткі і паспрабуйце адказаць на пытаньне: «Ці будзеце зараз вы аказваць супраціў удзельнікам апэрацыі «Свабоду Беларусі».

Адказы, заўвагі і прапановы дасылайце на адрас:

**George W. Bush.**
**The White House.**
**Washington D.C.**
**USA.**

Першыя дзесяць карэспандэнтаў атрымаюць каштоўны прыз – коўрык для мышкі з выявай Мікі-Маўса ●




Яшчэ адзін непрыемны аспэкт для янкі з досьведу апошніх баёў у Іраку: іракцы не чытаюць прапагандысцкай літаратуры, ня слухаюць свабоднае радыё. Як вынік – пужаюцца вызваліцеляў, сустракаюць іх дрэнна адрэпэтаванымі выкрыкамі бяз шчырых усьмешак на тварах, траўміруючы такім чынам саюзныя часткі і блізкіх да іх журналістаў. Таму трэба загадзя падсадзіць беларускіх грамадзянаў на вольныя СМІ.







Іракцы фанатычна вераць Садаму. Магчыма, прычына ў тым, што амэрыканскія «Замяталіны і Зімоўскія» слаба папрацавалі над дыскрэдытацыяй дыктатара. Кажуць, што ў прыпадку фанатычнай вернасьці жыхары Мэсапатаміі нават робяць сабе пластычныя апэрацыі, каб быць падобнымі на Хусэйна. Гэта робіць пошукі злачынца цяжкімі, нягледзячы на тое, што дыктатар даўно забіты. Калі справа дойдзе да Беларусі, трэба будзе папрацаваць над тым, каб само слова «Лукашэнка» выклікала ў беларусаў асацыяцыі з сацыяльнай несправядлівасьцю, палітычнай нестабільнасьцю, адным словам, зь негатывам, мярзотай...

Іракцы ўвесь час рухаюцца і пыляць пяском. Такім чынам яны пазбаўляюць войскі кааліцыі магчымасьці дакладна прыцэльвацца, ня кажучы ўжо аб тым, што ў марскіх пехацінцаў губляецца зрок. Не дапусьціць памехаў для амэрыканскіх бамбардзіроўшчыкаў – першая задача амэрыканскіх палітімфарматараў. Магчымую праблему для пілотаў «Апачы» могуць складаць апараты аматараў самагонных напояў.







Досьвед баёў у Іраку сьведчыць, што іракцы аддаюцца ў палон адзінкамі, прычым не баяздольнымі, параненымі і кантужанымі, часам у абсалютна несьвядомым стане, такім чынам прычыняючы маральна-псыхалягічныя страты войскам вызваліцеляў. Заданьне для прапагандысцкай службы ЗША – падштурхнуць беларускіх салдатаў да таго, каб здацца ў палон натоўпамі, у сьвядомай памяці і цьвярозым розуме.




Як вядома, іракскія войскі ўжываюць незаконныя віды зброі, у прыватнасьці падпальваюць патэнцыйна амэрыканскую нафту і не даюць салдатам кааліцыі піць і спаць, а таксама не прадастаўляюць у іхнае распараджэньне сваіх жанчынаў, што само па сабе бесчалавечна і антыгуманна. Іракцы самі разбураюць свае хаты, псуюць маёмасьць, калечаць дзяцей, каб выставіць салдатаў кааліцыі ў непрыглядным сьвеце ў вачах сусьветнай грамадзкасьці, якая падтрымлівае місію вызваліцеляў. Напярэдадні апэрацыі вызваленьня Беларусі амэрыканскім прапагандыстам трэба засяродзіцца на тым, каб беларусы не праводзілі тактыку «выпаленай зямлі і неспакусьлівай плоці», напрыклад не палілі амэрыканскі торф.

Насуперак усім разьлікам, іракцы аказваюць супраціў крыжакам XXI стагодзьдзя. Гэтага дапусьціць нельга. Рэзюмэ: сярод прызыўнікоў і салдатаў запасу трэба будзе шмат і сур'ёзна папрацаваць.










Іракцы своечасова не прадастаўляюць інфармацыі аб знаходжаньні сваіх танкаў, самалётаў і іншых відаў зброі, прымушаючы саюзьнікаў траціць грошы амэрыканскіх і ангельскіх падаткаплацельшчыкаў на іх пошукі і зьнішчэньне. «Праінфармую янкі, дзе знаходзіцца вайсковы аб'ект і ціха перасяджу бамбёжку ў нейкім ДК», – вось што павінен ведаць беларус перад тым, як пачнецца вызвольная акцыя.

Іракскія войскі ўжываюць незаконныя формы зброі, кшталту камянёў, рагатак, анучаў і часам стралковую зброю. У прыгарадах Басры знойдзеныя агромныя плянтацыі сібірскай язвы, якой хапіла б, каб зьнішчыць усё жывое на плянэтах Сонечнай сыстэмы, а таксама пасевы невядомых вірусаў і бактэрыяў, замаскіраваных пад фінікавыя пальмы. Перад пачаткам вайны амэрыканскі агітпроп павінен перасьцерегчы беларусаў, напрыклад, хворых на радыяцыю, на паўтарэньне «гераічных» учынкаў тэрарыстаў-хімікаў.

## ПРАКТЫЧНЫ ЗАНЯТАК №6

«Высокі прэстыж адукацыі, грамадзка карысная праца без розьніцы на матэрыяльную ўзнагароду, формы маральнага заахвочваньня людзей і многае іншае стала часткай і нашага жыцьця. Усё гэта павінна арганічна ўваходзіць у ідэалягічны фундамэнт сучаснага беларускага грамадзтва».




1. Намалюйце схему ідэалягічнага фундамэнту беларускага грамадзтва.

2. Задача: Пасьля ўдзелу ў складзе студэнцкага атраду ў будаўніцтве шматпавярховага паркінгу на вуліцы Няміга вам прапануецца ўзнагарода. Выбірайце:
а) павышаная стыпэндыя
б) бутэлька
в) сустрэча з Саладухам

6

## ПРАКТЫЧНЫ ЗАНЯТАК №7

«Не дай Бог, перажываць больш складаныя часы. Але чалавек павінен загартоўваць сябе і рыхтавацца да горшага. Будзе лепей – добра. Гэта звычайная жыцьцёвая ідэалёгія».




1. З дапамогай настаўніка, выберыце сабе мэтад закалкі: абліваньне халоднай вадой, самабічаваньне, валасяніца, пост і г.д. А якую мэтодыку вы б прапанавалі для вашага настаўніка, дэкана, рэктара? Абмяркуйце ў групе.

2. Які элемэнт палітыкі беларускага ўраду найбольш адпавядае прэзыдэнцкім пастулятам звычайнай жыцьцёвай ідэалёгіі?

7

## ПРАКТЫЧНЫ ЗАНЯТАК №8

«Выманім людзей з кватэр на сьвежае паветра – прыйдзе ў здаровы рух уся краіна. А рух – гэта жыцьцё».




1. Напішыце рэфэрат на тэму : «Лішкі жылплошчы – шлях да гіпадынаміі».

2. Чым, паводле лекцыі Прэзыдэнта, немагчыма выманіць беларуса?

3. Прадстаўнікі якой сацыяльнай катэгорыі маюць найбольшую працягласьць жыцьця, паводле беларускай ідэалёгіі?

8

## ПРАКТЫЧНЫ ЗАНЯТАК №9

«Мы выдаем зборнік «Палітыка». Яго прызначэньне – давядзеньне да кожнага зь сідзячых тут, аж да раённага зьвяна, даверцельнай, канфідэнцыяльнай інфармацыі, якая раскрывае, вобразна кажучы, «тайныя спружыны сучаснай палітыкі», матывы многіх рашэньняў прэзыдэнта, якія выклікаюць вялікі грамадзкі рэзананс, схаваныя ад публікі».




1. Якія яшчэ матывы, акрамя ўзгаданага на малюнку, могуць хавацца за лёсаноснымі рашэньнямі прэзыдэнта. Праверце адказ па зборніку «Палітыка». У клясе, загадайце адзін аднаму загадку наконт патаемных матываў аднаго з дэкрэтаў Прэзыдэнта.

9

## ПРАКТЫЧНЫ ЗАНЯТАК №10

«Недапушчальна, калі чыноўнікі ці выкладчыкі навучальных установаў не падзяляюць дзяржаўнай ідэалёгіі, а часам і адкрыта выступаюць супраць улады і таго курсу, які быццам бы яны праводзяць самі ці павінны праводзіць, будучы ўманціраванымі ў гэтую сыстэму ўлады. Добра можна рабіць толькі тое, ува што верыш. З тымі ж, хто ідзе ўразрэз зь дзяржаўнай палітыкай ці вагаецца, трэба, таварышы, рашуча расставацца».




1. Псыхалягічны трэнінг: перад камэрай паспабуйце без падрыхтоўкі сказаць усё, што вы думаеце пра ўладу. Праслухайце і прааналізуйце аўдыё-відэазапіс маналёгу ў аўдыторыі. Пры неабходнасьці паўтарыце сэанс.

2. Які каэфіцыент ваганьняў у пытаньні правільнасьці абранага дзяржаўнага курсу дапушчаецца мець студэнту Акадэміі кіраваньня?

10

## ПРАКТЫЧНЫ ЗАНЯТАК №11

«Неабходна новая сучасная сыстэма ідэалягічнай працы. Кампактная, дынамічная, эфэктыўная».

КАНСТРУКТАР:
зампаліт-трансформэр



Памесьціцца ў вашай кішэні

1. Прапануйце мэтады далейшай мадэрнізацыі працэдуры ідэалягічнай працы. Ці можна зрабіць ваш апарат больш кампактным. Зрабіце даклад на тэму выкарыстаньня нанотэхналёгіяў у ідэалягічнай апрацоўцы насельніцтва.

2. Мікрасхемы якой фірмы выкарыстоўваюцца ў вытворчасьці электронных ідэолягаў новага пакленьня?

11

## ПРАКТЫЧНЫ ЗАНЯТАК №12

«Ідэалягічны работнік павінен быць выключна адукаваны, харызматычны чалавек, у яго ад прыроды павінна быць прыроджанае пачуцьцё ідэалягічнага работніка. (...) Я са зьдзіўленьнем назіраю, як Акадэмія (кіраваньня) імкнецца стаць звычайным ВНУ, як усе, рыхтаваць звычайных студэнтаў. Гэта памылка. Ёй прызначана, я б сказаў, унікальная роля. Не трэба ў Акадэміі навучаць усіх. (...) Лідэры, харызматычныя асобы павінны там вучыцца».

АКАДЭМІЯ КІРАВАНЬНЯ
Зборачны канвэер



1. Ці можна пры дапамозе ўступных экзамэнаў, згодна пастулятам беларускай дзяржаўнай ідэалёгіі, вызначыць сапраўднага харызматыка?

12

## ПРАКТЫЧНЫ ЗАНЯТАК №13

«Але мы так і не стварылі кінагерояў сучаснай Беларусі, якім бы падражала наша моладзь».




1. Прыдумайце сцэнар мастацкага фільму з культавым маладзевым героем. Як ён будзе называцца?

13

## АДКАЗЫ НА ПРАКТЫКАВАНЬНІ:

**ЗАНЯТАК №1**
1) Не, бо «у выніку кантактаў з Захадам беларусы даўно выпрацавалі імунітэт супраць іншацывілізацыйнага ўплыву».

**ЗАНЯТАК №2**
1) Недастатковая ачыстка ад «гнілі». Замест дыстыляцыі паспрабуйце метад халоднага анфлеражу.

**ЗАНЯТАК №3**
3) А.Лукашэнка, пакуль амэрыканскае аўтарскае права не распаўсюджана на Беларусь

**ЗАНЯТАК №4**
2) 6 балаў
3) Кітай, Манголія, Паўночная Карэя

**ЗАНЯТАК №5**
3) 33.629% плюс-мінус 30

**ЗАНЯТАК №6**
2) в

**ЗАНЯТАК №7**
2) павышэньне коштаў

**ЗАНЯТАК №8**
2) «прыгожай дэмагогіяй аб лібэральных каштоўнасьцях»
3) бамжы

**ЗАНЯТАК №9**
-------

**ЗАНЯТАК №10**
2) 0

**ЗАНЯТАК №11**
2) ПА «Інтэграл»

**ЗАНЯТАК №12**
1) Не, набытыя якасьці ў разьлік не прымаюцца. Адзінае выйсьце – генэтычны тэст

**ЗАНЯТАК №13**
1. «Бацька-1»

МЕСЦА ДЛЯ СКЛЕЙКІ

МЕСЦА ДЛЯ СКЛЕЙКІ

МЕСЦА ДЛЯ СКЛЕЙКІ

# КААП сьпяшаецца на дапамогу

Распачаўшы інтэрвэнцыю ў Ірак бяз санкцыі Аб'яднаных Нацыяў, Амэрыка апусьціла самую аўтарытэтную міжнародную структуру да статусу шараговай няўрадавай грамадзкай ініцыятывы. Звычайна дзейнасьць такога кшталту арганізацыяў абмяжоўваецца маніторынгам, дабрачыннай дзейнасьцю і правядзеньнем сэмінараў. Прыкладна тэтым займалася і вядомая мульцяшная арганізацыя «Камісія Асоба Актыўнай Дапамогі Прыроды» (КААП)...

Мы КААП — самая аўтарытэтная ў жывёльным сьвеце надвідавая арганізацыя, якая рэгулюе эвалюцыю жывых формаў. З намі лічацца ўсе: ад інфузоры-туфелькі да кашалота!

Трэба тэрмінова сабраць Раду Бясьпекі КААП. На востраве «Заячая капуста» кракадзілы праводзяць генацыд чорных зайцаў, нахабна парушаючы Жэнэўскай канвэнцыяй.

Тэта не генацыд, тэта актыўны пратэст супраць аўтарытарных формаў унутранай арганізацыі зайчыных родаў. Мы нясем вушастым дэмакратыю.

Я таксама. Агрэсар яшчэ будзе плакаць кракадзілавымі сьлязьмі.

Я за!

Якая двурушнасьць! Выношу на парадак дня Рады Бясьпекі КААП рэзалюцыю супраць агрэсіі кракадзілаў.

Дзейнасьць КААП не адпавядае ўмовам сёньняшняга сусьветнага парадку, калі прасмыкаючым пагражае глябальная пагроза з боку тэрарыстычных груповак чорных зайцаў.

Клаў я яйкі на вашую рэзалюцыю!

Да—ла. Што будзем рабіць? Прамаўчым?

З кракадзілам лепш ня зьвязвацца.

Адзінае, што нам застаецца — правесьці маніторынг, раздаць гуманітарку ды пасэмінарыць.

Тэта безумоўна аслабіць мучэньні чорных зайцаў

«Вот случылась што-та газе-та, ой-е-е-е-ей, што-та з кем-та зьдзелал хто-та, ой-е-е-е-ей, неізьвесна газе-кагда, только нам пара туда, пара, пара!»

А раптам зайцы сапраўды агрэсіўныя?..

Нарэшце КААП. Яны мяне дакладна выратуюць ад кракадзілавай навалы

Перш за ўсё маніторынг: запоўніце калі ласка анкету

Скажыце, вы чытаеце незалежную прэсу?

Мне як-бы не да газэт. Нас кушаюць!

Так я и думаў: абсалютная прававая непісьменнасьць, усугубленая наступствамі экалягічнай нераўнавагі

Трэба тэрмінова правесьці прававы трэнінг з удзелам спэцыялістаў

Трымайся, вушасты! Мы прывязем трэнэра-качканоса.

Спадар качканос, зьбірайцеся. Трэба тэрмінова наведаць чорных зайцаў у галіне матывацыі атрыманьня грантаў на экалягічную дзейнасьць.

А сутачныя й перакладчыка забясьпечыце?

Заяц, лічы, што мы цябе выратавалі!

Э-э...

Рыхтуйся да ўдзелу ў сэмінары «Прававыя і экалягічныя праблемы разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці сярод чорных зайцаў у зонах прыліву-адліву»

Пагадзіся, заяц, трэнінг з качканосам кардынальна зьменіў тваю сьвядомасьць. Пастарайся засвоіць матэрыял.

Ну-у...

З новымі ведамі ты самастойна пераадолееш унутраны структурны крызыс

А-а...

А мы тымчасам зьезьдзім па гуманітарку: сухую моркву і новыя брашуры дэклярацыі КААП.

Ну, пакуль, не рабей!

А-а... Як жа кракадзілы?..

Не, сябры, а што б ні казалі недругі, а КААП — гэта сіла!